# НАВІНКІ

Пятніца, 19 лютага 1999 | №3(11) | Кошт свабодны


*Гэты здымак абыйшоў увесь сьвет*

# Клінтан у Беларусі:

## акт у падтрымку свабоды





Прафэсійнае вока невядомага «папарацы» застукала акт інтымнага каханьня паміж прэзыдэнтам Клінтанам і Монікай Левінскі, які адбыўся ў рамках візыту амэрыканскага прэзыдэнта ў Беларусь у студзені 1994-га.
Вось так, пяць гадоў таму пад трыбунай канфэрэнцзалі Акадэміі Навук пачынаўся раман, за які Клінтан амаль не паплаціўся месцам на лужайцы перад «Белай Хатай». *(гл. стар 2)*

**Тэрмінова ў нумар**

**Дзяржкамдруку без суда і сьледзтва зарэгістраваў газэту «Навінкі»!**

*Падрабязнасьці чытайце ў наступным нумары*




Яны прыходзяць пад пакровам цемры... Яны сьцьвярджаюць, што ім патрэбныя нашы душы...
**Стар. 2**




*«Анты»-фашыстоўскія малойчыкі тэрарызуюць аматараў клясычнай музыкі.
Апошняя надзея – Прэзыдэнт.*
*стар. 3*




Крывавы комікс на стар. 4
Сакрэтны агент АнтыМірон выратоўвае беларускую папуляцыю ад злавеснага вірусу.
Дзецям да 16 год чытаць ня раім!


Абсалютна незалежная газэта «Навінкі». Выходзіць зь лютага 1998 г. (На гэтым месцы маглі б быць нашы выходныя зьвесткі і рэгістрацыйны нумар) Тыраж 00299 экз.
Адрас для карэспандэнцыі: п/с 42, 220085 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by

## Клінтан у Беларусі:...

СЁНЬНЯ КЛІНТАН ГРАЕ НА САКСАФОНЕ ПЕРАМОЖНЫ МАРШ: «ЭТОТ ДЕНЬ ПОБЕДЫ ПОРОХОМ ПРОПАХ...» АДНАК АПРАЎДАЛЬНЫ ВЭРДЫКТ ВЯЛІКАГА ЖУРЫ – НЯ ПРОСТА ПРЫВАТНАЯ ПЕРАМОГА КАПІТАЛІЙСКАГА БАБНІКА НАД УБОГІМ ЛІБІДА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ БОЛЬШАСЬЦІ Ў СЭНАЦЕ.

ЗІПЭРГЕЙТ (АД АНГЛ. ZIPP - «МАЛАНКА» НА РАСПОРКУ) УВАСАБЛЯЕ ПРАЦЭС НАТУРАЛЬНАГА АДБОРУ НОВАЙ ПОСТМАДЭРНОВАЙ МАДЭЛІ ДЭМАКРАТЫЧНАГА ПАЛІТЫКА.

БІЛ КЛІНТАН - ГЭТА ХАДЗЯЧЫ СЫНТЭЗ У ВЯЛІКІМ ЗАКОНЕ ДЫЯЛЕКТЫЧНАЙ ТРЫЯДЫ.

БІЛ КЛІНТАН - ГЭТА ТЫП ДЭМАКРАТА XXI СТАГОДЗЬДЗЯ.

БІЛ КЛІНТАН - ГЭТА АДЗІНАЯ МАГЧЫМАЯ НА СЁНЬНЯ ФОРМА ДЭМАКРАТЫЧНАГА ПАЎСТАНЬНЯ, ЗДОЛЬНАЯ ПЕРАМАГАЦЬ АЎТАРЫТАРНЫЯ РЭЖЫМЫ.

КАНСТАНТЫ НОВАЙ ПОСТМАДЭРНОВАЙ ТЭНДЭНЦЫІ СКЛАДАЮЦЦА СА ЗЬНЕШНЯЙ СЫМУЛЯЦЫІ ПРАВАВОЙ І НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ТРАДЫЦЫІ, ПРЫМАТУ ЗДАРОВАГА АСАБІСТАГА РАЗДАЛБАЙСТВА НА МЯЖЫ АГРЭСІЎНАГА ВАЛЮНТАРЫЗМУ І АКТОРСКАГА МАЙСТЭРСТВА.

АЎТЭНТЫЧНЫ ЦЫНІЗМ, ДАВЕДЗЕНЫ ДА ЎЗРОЎНЮ МАЛЕКУЛЫ ДНК - ГЭТА АЛЬФА І АМЭГА ТАКТЫКІ СУЧАСНЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛАЎ.

ТАКІМ ЧЫНАМ, ПАЛЕНЬНЕ МАРЫХУАНЫ, ЗАКОС АД ВОЙСКА ПА ДУРЦЫ, ЗВЫШАКТЫЎНАЯ СЭКСУАЛЬНАЯ ЗАКЛАПОЧАНАСЬЦЬ - ГЭТА БОЛЬШ НЕ «ГІСТЭРЫЯ ХВАРОБЫ» ПАЦЫЕНТА ПСЫХІЯТРЫЧНЫХ ДЫСПАНСЭРАЎ. ГЭТА ЭТАПЫ ЭКЗЫСТЭНЦЫІ І КАР'ЕРЫ НАРМАЛЬНАГА ПЭРСПЭКТЫЎНАГА ПАЛІТЫКА - УЗОР ДЛЯ КОЖНАГА БЕЛАРУСКАГА ДЭМАКРАТА.

І ТОЛЬКІ ГЭТАК МЫ ПЕРАМОЖАМ ДЫКТАТУРУ!

*СкандАлы*

## Імпічмэнт у «Мададым Фронце»

Не пасьпеў пераабраны 7 лютага на пасаду старшыні «Маладога Фронту» П.Севярынец прайсьці інаўгурацыю, як выбухнуў скандал, што занес «Дамоклаў меч» над кар'ерай маладога кансэрватыўнага палітыка. На паверхню ўсплылі брудныя афэры Севярынца падчас Другога Сойму «МФ».

Прыгадаем, што напярэдадні правядзеньня партайтагунгу ў маладафронтаўскіх кулюарах толькі й размоваў было, што «атамана трэба мяняць». Сымпатыі большасьці былі на карысьць мужнага Скочкі, які прапанаваў сапраўды рэальную праграму вываду арганізацыі з крызысу. Яна прадугледжвала пераход «МФ» ў падпольле, разьвязаньне рэйкавай вайны і, нарэшце, маштабнае акружэньне прыхільнікаў прэзыдэнцкага рэжыму пад Магілёвам. (У палон было вырашана нікога ня браць).

Абрыўкі такога кшталту размоваў і крыватолкаў, якія ліхаманкава мусаваліся па кутах на Варвашэні-8, не маглі не дасягнуць вуха Севярынца. Таму апошні вырашыў дзейнічаць апэратаўна. Перш за ўсё Севярынец настаяў на тым, каб правесьці Сойм у разгар эпідэміі грыпу. Майстар закулісных інтрыгаў, варты самога Рэшэльe, ён верна разьлічыў, што хворыя дэлегаты ў прыступе насмарку і з высокай тэмпэратурай будуць няздатнымі адэкватна рэагаваць на падзеі. У такім стане яны нават адмовяцца ад гранту Фонду Сораса, калі, зразумела, ім нехта яго прапануе.

Але гэта была толькі артпадрыхтоўка. Свае сапраўдныя карты Севярынец адкрыў непасрэдна падчас Сойму, калі падняўся на трыбуну. Аўдыторыя пачула такія рэп-частушкі, што калі б Пашу паслухалі прад'юсэры «Рок-каранацыі», намінацыя «самы беласкуры Тупак Шакур» была б у ягонай кішэні. Куплетаў было дастаткова, каб падкія на ўсё экзатычнае дэлегаты-тынэйджэры адкінуліся ў экстазе і пачалі прытопваць ножкамі ў тахт цуда-рэпэру. Як вынік, падчас выбараў Севярынец адхапіў «за» 85% галасоў. І вось, калі здавалася, што ўсё ўжо мінула і Севярынец можа кідаць панты па замежных амбасадах, высьвятляюцца цікавыя падрабязнасьці.

Як заявіў на сваёй прэс-канфэрэнцыі высакародны засьцянковы шляхціц Раман Кавальчук, чый старажытны радавод упіраецца ў асобу легендарнага патрыцыя Палеймона, Севярынец згуляў досыць брудна. На Сойме ён сьпяваў пад фанеру!!!

Выступ мужнага Кавальчука меў самыя сур'ёзныя наступствы. Ужо зранку каля офісу БНФ тоўпіліся дэлегаты Сойму, патрабуючы вярнуць кошт уваходных білетаў. Для бульварнай прэсы, кшталту газэткі «Малады фронт», сьведчаньні Кавальчука сталі сапраўднай знаходкай. Яны нават не саромяцца параўноўваць DJ Renaissance зь вядомым маскалём-прайдзісьветам з гурта «Ласковый Май» Ю. Шатуновым.

Цяпер пры Цэнтральнай Радзе «Маладога Фронту» створаная камісія па імпічмэнту, удзельнікі якой плянуюць заслухаць паказаньні старшыні «МФ» і перадаць матэрыялы допыту на разгляд у Вышэйшы Партыйны Суд у асобе З.Пазьняка.

Бліжэйшым часам трэба чакаць, што на Варвашэні-8 паляцяць чыесьці галовы. У сваю чаргу Севярынец заявіў, што ён будзе сьпяваць і далей, нават калі на ягонае шоў «Чацьвер з факсам Пазьняка» прыйдзе толькі два чалавекі.

*«Пачуўшы гэта, Ірад цар устрывожыўся, і ўвесь Ерусалім зь ім.» Мацьвей 2:3*

# Кандыдат нарадзіўся!



Зьдзіўляе, як грамадзтва збольшага індыфэрэнтна ўспрымае весткі пра перапіс насельніцтва. А між тым выклікае насьцярогу, чаму ж так зьнянацку ўлады вырашылі дазнацца, колькі нас. Якія сапраўдныя прычыны перапісу?

Вядуньня зь Мядзельскага раёну баба Ядзя адназначна сказала нашаму карэспандэнту па сакрэту: «Шукаюць дзіця!»

Аказалася, што на Каляды баба Ядзя паводле старой завядзёнкі гадала на гушчы кававага напою «Ячмень». І вось пад час першага спірытычнага сэансу на сподку зьявіўся профіль вершніка «Пагоні», і ў яго не было вусоў! «Сапраўды кажу, - бажыцца баба Ядзя экзальтаваным суседкам. - Сёлета нарадзілася дзіця, якое ўзначаліць аб'яднаную апазыцыю і стане Другім Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь».

Весткі пра прыход Мэсіі пачалі блукаць па раёне нібы скупшчыкі прыватызацыйных чэкаў і неўзабаве дайшлі да мясцовых уладаў, якія ў вернападданскім імпэце не паленаваліся адбіць дэпэшу пра «цудоўнае нараджэньне» наверх, у Менск.

«Ну, вы, блін, даеце!» - буркнуў генэрал Шэрман, правёўшы вачыма па дакладной зь Мядзелу, аднак на ўсялякі выпадак, дзеля перастрахоўкі, зьвярнуўся па кансультацыю да вядомага расейскага астроляга Паўла Глобы. «Настрадамус» з РТР палез у свае талмуды і нарэшце адкалол свой прагноз, ад якога шэрманаўскіх агентаў кінула ў пот.

Аказалася, што напрыканцы студзеня 1999 году Юпіцер увайшоў у фазу Вадалея, што сьведчыць пра нараджэньне Мэсіі рэгіянальнага маштабу. «Адным словам, - рэзюмаваў Глоба, - узрадуйцеся і ідзіце зь мірам: кандыдат нарадзіўся! Праз 33 гады ён пераможа Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах».

*У 1999 годзе нарадзілася памазанае дзіця – будучы прэзыдэнт Беларусі*

Астралягічны дыягназ Глобы падняў на вушы ўвесь прэзыдэнцкі комплекс на Карла Маркса. Чыноўнікаў можна зразумець. Сапраўды, жывеш - ня тужыш. Час ад часу, калі падцісkае тэрмін прэзыдэнцкай легіслатуры, апэратыўна прыймаеш новую Канстытуцыю... І раптам - бах-тара-рах... Мэсія! У 2032 годзе - бывайце, высокія кабінэты. І ўсё з-за нейкага «Памазаніка», які сёньня ляжыць сабе недзе ў ясьлях і мочыць, як запраўскі каўбой, чарговы «хаґіс».

Падставаў для неспакою дадала інфармацыя, што замежныя паслы, якія нядаўна раптам вярнуліся ў Беларусь, бескантрольна разьяжджаюць па правінцыі з ворахам падарункаў (нібыта «дзецям Чарнобылю»).

На экстраным паседжаньні Савету бясьпекі было вырашана знайсьці памазанае немаўля і... Тут і прыйшла на думку ідэя татальнага перапісу насельніцтва. Гэта дазволіць вылічыць будучага кандыдата і, такім чынам, у прэвэнтыўным парадку нэйтралізаваць пераносчыкаў эсхаталягічных дэмакратычных настрояў.

Каб гарантаваць посьпех на ўсе сто, падчас перапісу забароненыя ўсе замежныя сямейныя і дзіцячыя туры (перш за ўсё ў Эгіпет). Калі ўсё ж у выніку «зачысткі» Мэсію ня знойдуць, у дзеяньне ўступіць сакрэтны плян «Батлейка». Падрабязнасьці гэтага пляну, нажаль, нам пакуль невядомыя ●

# Наш адказ эўра

### Вяртаецца моцная славянская валюта, годная перахапіць эстафэту ў машэраўска-брэжнеўскага рубля

Як сьцьвярджаюць дасьведчаныя крыніцы з колаў супрацоўнікаў Нацыянальнага банку РБ, ужо два тыдні Нацбанк таемна друкуе новую валюту ў рамках выкананьня дамовы па аб'яднаньні фінансавых сыстэмаў Беларусі і Расеі. Новая агульная валюта атрымала назву - «у.е.».

Такая назва беларуска-расейскай валюты была выбраная не выпадкова. Папярэднія сацыялягічныя дасьледаваньні ў абедзьвюх краінах сьведчаць, што ані рублі, ані «зайцы», а тым болей ня талеры ня маюць даверу з боку насельніцтва.

У.е. распрацаваная з улікам узроўню «далярызацыі» эканомікі й прыхільнасьцямі простых працоўных людзей як Беларусі, так і Расеі. Зьнешнім выглядам у.е. аддалена нагадвае амэрыканскі даляр, што, як мяркуюць супрацоўнікі Нацбанку, дапаможа пазьбегнуць псыхалягічнага шоку, непазьбежнага пры любых радыкальных зьменах у грашовым абарачэньні.

На банкнотах выяўленыя бацькі беларуска-расейскай інтэграцыі: на купюры 1 у.е. - Ельцын, 2 у.е. - Прымакоў і г.д. Партрэт нашага Прэзыдэнта будзе ўпрыгожваць сто-ўешную купюру. Пацьверджаньнем ліквіднасьці гэтых грошай зьяўляецца запіс This is chisto normalnie dengi у левым верхнім куце на чырвона-зялёным баку банкноты. На адваротным баку выяўлены будынак Белсаўпрофу з дэвізам «V soyuz nerushimy my verim!».

Увядзеньне у.е. варта разглядаць як дастойны адказ на фінансавае ўварваньне эўра на «чорныя рынкі» краінаў-саюзьніцаў. Як паказваюць папярэднія валютныя таргі на Камароўскім рынку, у.е. карыстаецца стабільным попытам у валютчыкаў. За адзін у.е. прапаноўвалі 1 млн. бел. рублёў плюс 2 даляры ЗША і бутэльку піва ●



*«О, колькі нам адкрыцьцяў дзіўных рыхтуе прасьвятленьня дух...» Гэтак можна пракамэнтаваць апошнія зьвесткі архівістаў...*

# Адам Глёбус 16 ст.

Іншыя словы цяжка знайсьці, калі знаёмісься з апошнімі сэнсацыйнымі вынаходкамі архіварыюса «Нашай Нівы» Сяргея Шупы. Унікальныя дакумэнты, што выкапаў спадар Шупа ў пыльных архівах Праскага Граду, ставяць усе сучасныя вэрсіі аб жыцьці і дзейнасьці нашага вядомага земляка Францыска Скарыны з галавы на ногі.

Навукоўцам даведзены сэнсацыйны факт: першай беларускай кніжкай Скарыны была не Стары Запавет Бібліі, як лічылася дагэтуль.

На тры гады раней за Біблію пабачыў сьвет эратычны раман «Жарсныя ночы Эўфрасіньні» з сэрыі «Падарожныя бэстсэлеры», які адразу выбіўся ў першыя радкі кніжных хітпарадаў Эўропы. Перадгісторыя зьяўленьня гэтага твору наступная. У 1515 гг. малады выпускнік Падуанскага ўнівэрсытэту доктар Францыск Скарына быў разьмеркаваны ў Прагу на службу «хуткай дапомогі». Але зь цягам часу малады фэльчар зразумеў, што шмат у мясцовай службе 911 не заробіш. У пошуках выйсьця малады ліцьвін пачаў круціцца: працаваў масажыстам у чэскага караля, трымаў прыватны стаматалягічны кабінэт, адчыніў салярыюм... Пасьля шэрагу няўдалых спробаў прабіцца ў людзі Скарына нарэшце знайшоў для сябе залатую жылу - друк.

Пранырлівы палачанін хутка зразумеў, што друкаваньне рэцэптаў і гісторыяў хваробаў не прыносіць патрэбнага прыбытку. І вось у 1516 годзе Скарына набыў ліцэнзію ў Сьвятой інквізыцыі на друкаваньне сьвецкай літаратуры. Узяўшы крэдыт у мяняльнай лаўцы, ён заснаваў сваю фірму і пачаў выкідваць кнігу за кнігай на неабсяжны рынак Вялікага Княства



Літоўскага. Прадукцыя Скарыны адразу знайшла сабе масавага спажыўца. Па ўсіх карэтных прыстанках ВКЛ заходзілі кніжныя дылеры і заводзілі: «Калі Вам сумна ў дарозе прапануем Вашай увазе чарговы эратычны раман доктара Францыска Скарыны з Полацку. Гераіня раману маладая князёўна, якая ў пошуках любоўных прыгодаў накіроўваецца ў Зямлю Абяцаную...»

Ня дзіўна, што хутка аўтарам і ягонымі сумнеўнымі творамі зацікавілася Сьвятая інквізыцыя. У летапісах захаваўся нават прысуд аб сьмяротнай кары праз спаленьне самога Скарыны. Якім чынам нашаму першадрукару ўдалося ўнікнуць пакараньня - цёмная гісторыя. Дайшлі толькі чуткі, што нібы Скарына адмазаўся ад «псоў Госпада», сто разоў надрукаваўшы Стары Запавет.

Але і тут у поўнай меры праявіўся бязьмерны талент нашага славутага першадрукара. Усе выданьні Бібліі мелі полікаляровы друк і нават супэрвокладку. Калі ж увесь біблійны тыраж пакаціў на «ура» у мясцовых езуітаў, Скарына ўзяўся пісаць працяг Старога Запавету: «Новыя прыгоды прарока Майсея», «Копіі цара Салямона», «Молат Макабэяў» і г.д. Вядома, зьявіліся й завісьнікі. У Львове нейкі Фёдараў, самым нахабным чынам парушаючы аўтарскія правы, выдаваў пірацкія копіі, якія да таго ж былі нізкай якасьці, стракацелі памылкамі. Скарына падаў іск у Вярхоўны Трыбунал ВКЛ. Фёдараў, ратуючыся ад судовага перасьледу, уцёк у Маскоўшчыну, дзе неўзабаве ператварыўся ў буйнога кніжнага манапаліста.

Неўзабаве, у Скарыны зьявіліся прыхільнікі (Сымон Будны, Васіль Цяпінскі і г.д.), але гэта ўжо іншая гісторыя ●

«НАВІНКІ» – XXth SENTURY FOCKS ПРЭЗЭНТУЮЦЬ

ВІРУС НАЦЫЯНАЛІЗМУ

АнтыМірон

Таварыш Прэзыдэнт, сакрэтны агент АнтыМірон па Вашаму загаду прыбыў!

Дзяржаўная справа

Паглядзі, што здарылася з маім міністрам па справах СНД

Жыве Беларусь!

Што... Што з Вамі?..

Усе на выбары 16 мая!..

Гэта жахліва! Дзе ён падхапіў гэтую заразу?!

Зьнешне ўсё пачалося як звычайны грып, але потым навукоўцы высьветлілі

Наш кандыдат – Чыгір!

Што мы маем справу зь вірусам нацыяналізму!

Ён пагражае ўсяму грамадзтву. Вашае заданьне – знайсьці і зьнішчыць ачаг эпідэміі

Неадкладна адпраўляйцеся ў Амэрыку!

Праз 4 гадзіны на крылах ночы верталёт ВПС РБ пранік у паветраную прастору ЗША

ТАТРАТРАТ

Прафэсійны нюх супэрагента прывеў АнтыМірона да капіталісхіх халмоў

Дрыжыце, буржуі! Я каларадзкі жук, які есьць ваш бульбянік.

Administracyja Prezydenta BNR abied z 2 p.m. da 4 p.m.

...A potym, kali virus zarazić usich, Biełaruś budzie ŭ našaj kišeni! Ha-ha-ha-ha!..

О, не!

Івонка Сурвіла?!

Чытаў уніяцкую Біблію? Езэкіль 25:17 «І ты даведаесься, што я Госпад, калі я абрушу сваю помсту на цябе...»

Далей ня памятаю... Ну ты ж фільм глядзеў, мазафакер!

А вось з гэтай штучкай я перамагу на вашых грэбаных выбарах!

VIRUS NACYIANALIZMU Pažadana spažyć da 16.05.1999

І першае, што мы зробім, гэта перайменім КГБ у ЦРУ і ўвядзем левабаковы рух!

Якая зьвяруга!

Але ж не забывайся, што на шляху такіх злодзеяў, як ты, Сурвіла, заўсёды есьць перашкода!

Хрась!

І гэта...

АнтыМірон!

Гаўна табе ў рыла! Ручкі ўгору, малец!

Я – парваны прэзэрватыў, які пазбаўляе вас спакою!

Прыцэльным агнём з АКС АнтыМірон даканаў місію



Наступным днём на Карла Маркса-40 АнтыМірон рапартаваў пра выкананую апэрацыю асабіста Прэзыдэнту

Вось гэты вірус. Захоўвайце яго вельмі пільна, бо ён

страшэнна небясьпеч...

Які ж я мудак, скаціна,.. маскаль,.. камуняка...

Радавая Беларусь